


# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №11 (153)
ЛІПЕНЬ 2022 ГОДА


СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД

## АСУДЗІЛІ ДВОЙЧЫ

**Ксяндза Андрэя Вашчука асудзілі ў зняволенні яшчэ раз.**

Тэлеграм-канал «Хрысціянская візія» паведамляе, што пробашчу віцебскай парафіі Святога Духа прысудзілі ўжо другі арышт на 15 сутак. Суд адбыўся ў часе першага арышту ксяндза Андрэя, які быў затрыманы 15 ліпеня, асуджаны 18 ліпеня, і цяпер утрымліваецца ў віцебскі ІЧУ.

Ні на першы суд, ні на другі нікому трапіць не ўдалося, таму дакладных звестак, за што асудзілі Андрэя Вашчука, дагэтуль няма. Паводле розных версій, першы раз ён быў асуджаны паводле артыкула 24.23 КаАП за нібыта арганізацыю несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Што да другога суду, які мог адбыцца ў мінулую пятніцу, то гапярэдадні ў праўладных пабліках з'явілася інфармацыя пра тое, што святара падазраюць у распаўсюджанні так званых экстрэмісцкіх матэрыялаў. І што ўвогуле сілавыя структуры млгуць звінаваціць яго ў закліках да масавых пратэстаў супраць вынікаў мінулых прэзідэнцкіх выбараў.

Праўду пра прысуды і судовыя працэсы сябры і знаёмыя змогуць даведацца хіба што ад самога ксяндза, але ён мае выйсці на волю не раней за 14 жніўня.

**Ян Сведка**

*Чытайце сайт Віцебскага раёна:* **http://vicebskreg.by**

## СРОК УВЕЛИЧИЛИ В 6 РАЗ

**По апелляции прокуратуры жителю Витебска, осужденному на 3 месяца ареста за угрозу применения насилия в отношение милиционера, наказание заменили полутора годами лишения свободы.**

В один из вечером витеблянин выпивал с братом в его квартире, и между ними возникла ссора. Обиженный мужчина вызвал милицию.

Когда одного из братьев милиционер-водитель вел по лестнице вниз, пьяный мужчина грозился ему и попытался пнуть ногами и ударить кулаком. Милиционер увернулся, скрутил дебошира и надел на него наручники.

18 апреля суд Октябрьского района признал ранее судимого мужчину виновным в угрозе применения насилия в отношении сотрудника органов внутренних дел в целях воспрепятствования его законной деятельности и на основании статьи 364 УК приговорил его к 3 месяцам ареста и принудительному лечению от алкоголизма. Кроме того, он должен был заплатить милиционеру 400 рублей компенсации морального вреда.

Однако государственный обвинитель помощник прокурора города Витебска посчитал, что назначенное судом наказание по своему виду и сроку является явно несправедливым вследствие мягкости и внес протест.

17 июня судебная коллегия по уголовным делам Витебского областного суда согласилась с этим протестом и заменила осужденному витеблянину 3 месяца ареста полутора годами заключения в колонии усиленного режима.

**ННВ**

ЗАКОН, ЯК ДЫШЛА

## НЕСАНКЦЫЯВАНЫ ПІКЕТ АДБЫЎСЯ

**У Віцебску зноў прайшоў несанкцыянаваны пікет з удзелам БРСМ. Нікога не пакаралі.**

Паводле газеты гарадской дзяржаўнай «Віцьбічы», жыхары Віцебску сабраліся каля консульства Латвіі, каб падтрымаць выхаванцаў Рыжскай дзіцячай акадэміі радыё і тэлебачання, якія прыехалі на «Славянскі базар». Падлеткі ўзялі інтэрв'ю ў Аляксандра Лукашэнкі, і «апынуліся закладнікамі палітычных інтрыг» – маўляў, у Латвіі асудзілі гэты ўчынак, пішуць «Віцьбічы».

Што да згаданага інцыдэнту, то кіраўнік МЗС Латвіі Эдгар Рынкевічс запатрабаваў тлумачэнняў і ацэнкі дзеянняў Рыжскай дзіцячай акадэміі радыё і тэлебачання Academy KidsTV, якая праігнаравала рэкамендацыі МЗС па бяспецы падарожжаў і ўдзелу ў інфармацыйнай вайне. Міністр замежных справаў не выключае, што дзейнасць акадэміі можа быць спынена.

Як паведамляе газета «Віцьбічы», 19 ліпеня «поддержать ребят к Латышскому консульству пришли жители областного центра, в том числе представители БРСМ и профсоюзов. Собравшиеся признались, что возмущены сложившейся ситуацией: нельзя втягивать детей в политические дрязги. В руках люди держали плакаты: «Славянский базар» любят 32 страны мира», «Беларусь и Латвия – соседи», «Руки прочь от детей!».

Вядома, кожны грамадзянін мае права мець уласную кропку гледжання на любыя падзеі, а таксама мець магчымасць публічна выказаць сваё меркаванні. Але такія дзеянні ў Беларусі рэгулюецца законам пра масавыя акцыі, і ўдзельнікі пікету каля латышскага консульства парушылі патрабаванні заканадаўства. Згодна з ім, ахвотныя правесці масавае мерапрыемства мусілі звярнуцца ў райвыканкам не меней як за 15 дзён і атрымаць дазвол на правядзенне пікета. Відавочна, гэтае патрабаванне было парушана: Кіраўнік МЗС Латвіі Эдгар Рынкевічс выступіў са сваёй заявай 15 ліпеня, а пікет адбыўся праз 4 дні.

Тым не меней, міліцыя закрыла вочы на паводзіны парушальнікаў, ніхто з іх не быў затрыманы або асуджаны. Падобным чынам віцебскія ўлады і ахоўнікі правапарадку паставіліся і да пікетаў, якія прайшлі каля латышскага консульства 9 траўня і 13 траўня. У той самы час па краіне каціцца цэлыя хваля судоў паводле арт. 24.23 КаАП, калі людзе караюць не тое што за масавыя мерапрыемствы, а ўсяго толькі за аватарку на фотаздымках у сацыяльных сетках, калі на ёй, прыкладам, выява ўкраінскага сцяга.

**Ян Сведка**

ПАЛІТВЯЗНІ

## З «ХІМІ» Ў КАЛОНІЮ

**У Віцебску, у судзе Чыгуначнага раёну Віцебску прайшоў працэс над фігурантам берасцейскай «карагоднай справы» Сяргеем Наліўкам. Суддзя Дзяніс Аляксеенка пастанавіў перавесці палітвязня з "хіміі" у папраўчую калонію тэрмінам на шэсць месяцаў і адзін дзень. Дагэтуль, паводле рашэння суду Маскоўскага раёну Берасця, палітзняволены Сяргей Наліўка адбываў прысуджаны ў красавіку 2021г. тэрмін абмежавання волі (два гады хіміі) у віцебскай ПУАТ №9.**

Што канкрэтна стала прычынай ужывання да Сяргея Наліўкі больш суровага пакарання, пакуль не вядома. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, з 18 красавіка па 18 мая Сяргея ўтрымлівалі ў ШІЗА за парушэнне рэжыму.

Жыхар Берасця быў прызнаны вінаватым па «карагоднай справе»: яго асудзілі паводле арт. 342 Крымінальнага кодэксу («Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх»). Некалькі дзясяткаў чалавек былі асуджаныя за тоем, што 13 верасня 2020 г., калі па ўсёй Беларусі праходзілі пратэсты супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, маршам прайшлі па праезнай частцы праспекту Машэрава, а ў раёне скрыжавання з бульварам Касманаўтаў утварылі карагод.

Разганяць карагод прыехаў вадамёт, ужыты ўпершыню падчас пратэстаў у Беларусі. І з таго часу берасцейцы называюць гэтае скрыжаванне «вадамётным», а крымінальная справа займела азначэнне «карагодная».

Следства сцвярджала, што «абвінавачваныя на праезнай частцы гучна крычалі, свісталі, выкрыквалі лозунгі, пляскалі ў далоні, наўмысна

*(працяг на стар. 2)*

ПА ТОЙ БОК

## ПАЛІВАЮЦЬ БРУДАМ КСЯНДЗА

**Праўладныя віцебскія паблікі паліваюць брудам зняволенага ксяндза Андрэя Вашчука.**


Тэлеграм-канал «Хрысціянская візія» паведамляе, што пробашчу віцебскай парафіі Святога Духа прысудзілі ўжо другі арышт на 15 сутак. Суд адбыўся ў часе першага арышту ксяндза Андрэя, які быў затрыманы 15 ліпеня, асуджаны 18 ліпеня, і цяпер утрымліваецца ў віцебскі ІЧУ.

Ні на першы суд, ні на другі нікому трапіць не ўдалося, таму дакладных звестак, за што асудзілі Андрэя Вашчука, дагэтуль няма. Паводле розных версій, першы раз ён быў асуджаны паводле артыкула 24.23 КаАП за нібыта арганізацыю несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Што да другога суду, які мог адбыцца ў мінулую пятніцу, то гапярэдадні ў праўладных пабліках з'явілася інфармацыя пра тое, што святара падазраюць у распаўсюджанні так званых экстрэмісцкіх матэрыялаў. І што ўвогуле сілавыя структуры могуць звінаваціць яго ў закліках да масавых пратэстаў супраць вынікаў мінулых прэзідэнцкіх выбараў.

Праўду пра прысуды і судовыя працэсы сябры і знаёмыя змогуць даведацца хіба што ад самога ксяндза, але ён мае выйсці на волю не раней за 14 жніўня.


**Якаў Дрозд**

ПАЛІТВЯЗНІ

(пачатак на стр. 1)

бралі актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і перашкаджалі нармальнай працы транспарту, прадпрыемстваў і арганізацыяў». Нібыта праз гэта збіўся графік працы размешчаных паблізу гандлёвых аб'ектаў і адбыліся шматгадзінавыя прастої грамадскага транспарту. Аднак у судзе большасць прадстаўнікоў згаданых у справе прадпрыемстваў не мелі да пратэстоўцаў ніякіх прэтэнзіяў.

Паводле заявы праваабаронцаў, якія абвясцілі палітвязнямі Сяргея Наліўку і яшчэ некалькі ўдзельнікаў бе расцейскіх пратэстаў, «сходы грамадзянаў насілі мірны характар і не ўяўлялі пагрозы ні нацыянальнай, ні грамадскай бяспецы. Нягледзячы на гэта, дэманстранты былі атакаваныя спецпадраздзяленнямі МУС з непрапарцыйным ужываннем фізічнай сілы, спецсродкаў і зброі».

**Ян Сведка**

СВАБОДА СЛОВА

# РЭСУРСЫ ПРЫЗНАНЫЯ ЭКСТРЭМІСКІМІ

**У больш як на 70 інфармацыйных рэсурсах суды выявілі наяўнасць экстрэмісцкіх матэрыялаў.**

За першыя 6 месяцы 2022 года судамі Віцебскай вобласці прызнаны 73 інфармацыйных рэсурсаў, якія распаўсюджваюць экстрэмісцкія матэрыялы. У рэпрэсіях супраць свабоды распаўсюджвання інфармацыі ў сетцы Інтэрнэт прынялі ўдзел суддзі 20 раённых судоў рэгіёна. У параўнанні з пачаткам года, штомесячная колькасць прызнання матэрыялаў экстрэмісцкімі засталася на адным і тым жа ўзроўні.

Суд Кастрычніцкага раёну прыняў 21 рашэнне ў дачыненні да 30 тэлеграм-каналу. Суд Чыгуначнага раёну Віцебску вынес 12 рашэнняў у дачыненні да 16 медыярэсурсаў. Суд Першамайскага раёну зрабіў гэта адзін раз і прызнаў наяўнасць экстрэмісцкіх матэрыялаў у двух інтэрнэт-рэсурсах.

Калі казаць пра выніковасць, то далей ідуць раённыя суды Віцебскай вобласці, якія прынялі 23 рашэння у дачыненні да 23 ТГ.

Так, суд Наваполацка прызнаў экстрэмісцкімі матэрыяламі на трох рэсурса, а суды, Верхнедзвінскага, Ушацкага, Шаркоўшчынкага Докшыцкага раёнаў на двух.

Суды Лепельскага, Дубровенскага, Шумілінскага, Полацкага, Браслаўскага, Ліёзненскага, Сененскага, Расонскага, Бешанковіцкага, Аршанскага, Чашніцкага і Глыбоцкага раёнаў – па адным.

Ва ўсіх выпадках суды скарысталіся правам неадкладнага выканання сваіх рашэнняў, паколькі, на думку суддзяў, прамаруджванне ў выкананні рашэння можа прывесці да значнай шкоды для дзяржавы або зрабіць немагчымым самое выкананне.

Ініцыятарамі прыняцця судамі рашэнняў па прызнанні матэрыялаў экстрэмісцкімі былі 7 упраўленне (па Віцебскай вобласці) ГУБАЗіК Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь або органы пракуратуры.

**Якаў Дрозд**

СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД

# ЯНУ ПІНЧУК ВЫДАЛІ

**Расійскі суд пастанавіў выправадзіць палітвязня Яну Пінчук у Віцебск.**



2-гі апеляцыйны суд Пецярбурга 21 ліпеня адмовіў у задавальненні скаргі на рашэнне Генпракуратуры РФ аб выдачы ўраджэнкі Віцебска Яны Пінчук на радзіму. Беларускія ўлады дзяўчыну абвінавачваюць у тым, што яна стварыла і вяла апазіцыйны telegram-канал.

Яна правяла амаль восем месяцаў пад вартай у пецярбургскім СІЗА. Увесь гэты час адвакаты дзяўчыны Алена Фадзеева і Марыя Бяляева спрабавалі абскардзіць рашэнне Генпракуратуры РФ аб выдачы Пінчук у Беларусь. Ні ў раённым, ні ў Гарсудзе зрабіць гэтага не атрымалася. Другі апеляцыйны суд быў апошняй інстанцыяй, куды можна звярнуцца. Але вынік таксама аказаўся адмоўным.

Запланаванае пасяджэнне на 13 ліпеня было адкладзена. Фармальнай прычынай стала тое, што Яну нібыта не апавясцілі належным чынам аб працэсе. Аднак пачакаць з рашэннем па апеляцыйнай скарзе прадстаўнік Генпракуратуры РФ і суддзя вырашылі, пасля таго, як у падтрымку Яны і супраць яе экстрадыцыі ў Беларусь выказаўся камітэт па правах чалавека ААН. 21 ліпеня прадстаўнікоў расейскага закону міжнароднае заступніцтва, відаць, ужо не бянтэжыла, як і грамадская падтрымка — да якой на папярэднім паседжанні нібыта не былі гатовыя.

Абарона мяркуе, што Гарсуд Пецярбурга 1 чэрвеня ўхіліўся ад рэальнага разгляду скаргі на рашэнне Генпракуратуры аб экстрадыцыі Яны, чым парушыў яе правы на абарону і справядлівы суд. Пракурор Пагудзіна, зразумела, так не лічыць. Адвакат Алена Фадзеева на разглядзе апеляцыі зноў падкрэсліла, наколькі жорстка ўлада ў Беларусі адрэагавала на пратэсты, апазіцыйную дзейнасць і палітычны актывізм. Акрамя таго, паводле расейскага закону, у выдачы грамадзяніна на радзіму для крымінальнага пераследу можна адмовіць, калі «дзеянне здзейснена на тэрыторыі РФ». З 2018 года Яна Пінчук пастаянна жыве ў Расіі - гэта значыць тыя дзеянні, у якіх яе абвінавачвае следства ў Беларусі, нават калі б і былі здзейснены, то тут, у Расіі.

Пракурор Пагудзіна ў адказ на заявы бакі абароны патлумачыла, што дзеянне, у якім абвінавачваюць Пінчук, караецца і ў Расіі, а тэрміны даўнасці не скончыліся. Просьба аб выдачы Яны падрыхтавана "ў адпаведнасці з міжнароднымі канвенцыямі", а довады, што 25-гадовую дзяўчыну падвергнуты жорсткім катаванням, па словах пракурора, - неабгрунтаваныя.

Рашэнне суддзя Напалкоў прымаў паўгадзіны. Скарга засталася без задавальнення. А значыць Яну выдадуць у Беларусь. Як і калегі ў папярэдніх інстанцыях, суддзя Сяргей Напалкоў паверыў, што размова не ідзе аб палітычным пераследзе, а да дзяўчыны не стануць прымяняць катаванні і бесчалавечнае абыходжанне.

Фармальна для Яны знік апошні шанс пазбегнуць экстрадыцыі, але адвакаты яшчэ маюць намер пазмагацца. Палітвязня экстрадуюць не адразу, а праз 15 дзён. Яе абарона плануе падаць запыт у Канстытуцыйны суд, бо адкрыліся новыя абставіны у сувязі з увагай Камітэта па правах чалавека ААН. Таксама ёсць працэсуальная магчымасць звярнуцца ў касацыйны суд.

**Якаў Дрозд**

ЗЛАЧЫНСТВА

# УБИЙСТВО В СТИЛЕ «ЛИХИХ 90-Х»

**Убийство в стиле «лихих 90-х» произошло в Витебске в начале 2021 года — витеблянина жестоко лишили жизни, чтобы не отдавать 30 000 долларов.**

За это убийство осудили неоднократно судимого 59-летнего жителя Могилева, сообщает служба информации прокуратуры Витебской области. Если свериться с расписанием судебных заседаний, то речь идет о Федоре Бочкове.

Могилевчанина называли штатным киллером банды Николая Марковского, в конце 1990-х оставившей кровавый след из 11 убийств в Беларуси, Украине и Польше. В 2003 и Марковский, и Бочков были схвачены в России.

По версии суда, в июне 2020 года Федор Бочков решил не отдавать 47-летнему жителю Витебска 30 000 долларов США, который должен был ежемесячно выплачивать частями. Чтобы избавиться от кредитора, он стал планировать его убийство. В результате, считает следствие, бывший киллер собирался завладеть не менее чем 100 000 долларов.

К убийству он готовился тщательно. Он начал собирать информацию о витеблянине, а также нашел себе подельника — 63-летнего жителя Рогачева, которому пообещал половину добычи.

С ноября 2020 года по январь 2021 года они собирали информацию о будущей жертве и искали удобное для нападения время. В лесу на 110 километре трассы М-8 в Витебском районе они заранее выкопали яму. Также были приобретены лопаты, кирпичи, камни, клейкая лента, перчатки, шапки, маски для лица, мобильный телефон и SIM-карта.

В один из январских дней на витеблянина напали в го же машине. Мужчине нанесли не менее 17 травмирующих воздействий: били руками, кирпичом, камнем и душили.

О пропаже витеблянина заявила квартирантка, снимавшая у него квартиру, когда тот перестал выходить на связь. В жилище мужчины обнаружили кровь. Подозреваемых в убийстве вскоре задержали в Рогачеве в гараже одного из убийц, где они меняли номера на «Toyota Prius», также забрызганной кровью.

В результате убийства злоумышленником удалось завладеть имуществом жертвы в сумме свыше 50 000 рублей. Где находится тело жертвы, они согласились показать только в марте.

В суде Бочков свою вину не признал, а заявил, что убийство совершил рогачевец.

Однако Витебским областным судом он был признан виновным в разбое с целью завладения имуществом в особо крупном размере и убийстве, сопряженным с разбоем, совершенным с особой жестокостью группой лиц.

На основании части 3 статьи 207 и пунктов 6, 12, 15 части 2 статьи 139 УК его приговорили к лишению свободы на 25 лет. Первые три года он проведет в тюрьме, а досиживать срок будет в исправительной колонии в условиях особого режима. К моменту освобождения убийце будет больше 80-ти лет.

Кроме того, Федор Бочков должен заплатить штраф в размере 6400 рублей и компенсацию матери жертвы в размере 70 000 рублей. Также был конфискован автомобиль «Peugeot», использованный для совершения преступления.

**ННВ**

КРАДЗЯЖЫ

# КАКИЕ КВАРТИРЫ БОЛЬШЕ ВСЕГО ПРИВЛЕКАЮТ ВОРОВ?

«Домушники» чаще орудуют в спальных районах и новостройках, а примерно 60% квартирных краж совершают в период с 8:00 до 16:00 и преимущественно в рабочие дни, отмечает замначальника Первомайского РУВД Минска Александр ГРАМОВИЧ. Эксперт добавляет, что квартирные кражи бывают двух основных категорий:квалифицированные, когда преступник тайно проникает в жилище, и гостевые, совершенные при свободном доступе. Последние наиболее актуальны сегодня, причем их часто совершают после совместного распития алкоголя, когда хозяева теряют бдительность.

На первом этаже, с пластиковыми окнами (их открыть легче, если нет дополнительной защиты). «Спросом» у воров пользуется то, что можно вынести незаметно: деньги, украшения, смартфоны. А вот громоздкую технику воруют меньше.

Анатолий Осипов констатирует, что на 100% защитить себя от кражи нельзя, но предпринять некоторые шаги для минимизации рисков возможно. Криминалист советует не хранить все свои сбережения в одном месте квартиры. Но лучше вовсе не держать крупные суммы наличных денег в жилище, а отнести в банк.

Если есть возможность, оборудуйте квартиру средствами видеофиксации или охранной сигнализацией. Возможно, стоит наладить контакты с соседями. К примеру, в старых домах, где соседи дружат много лет, квартирных краж обычно происходит меньше, так как «чужака» замечают довольно быстро. Будьте аккуратны в соцсетях. «Домушники», просматривая ваши страницы, могут понять, что вы, например, уехали на отдых и в квартире долгое время никого не будет.

**АіФ**

АСОБА

# АПОШНЯЕ СЛОВА ЗЬМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА НА СУДЗЕ

**Зміцера Дашкевіча адправілі ў калонію на паўтара года. Ягоная жонка Наста Дашкевіч атрымала тры гады «хатняй» хіміі. У Дашкевічаў чацьвёра непаўгадовых дзетак. Апошняе дзіця з'явілася месяц таму.**



Вырак агучылі сёння ў судзе Маскоўскага раёна. Па версіі следства, Дашкевічы бралі ўдзел у акцыі пратэсту 23 жніўня 2020 года ў Мінску.

Абодва адмовіліся даваць паказанні і прызналі толькі тое, што прысутнічалі на маршы ў той дзень.

Нагадаем, што пракурор запытваў для мужа і жонкі па паўтара года калоніі кожнаму.

У Зміцера і Насты чацвёра дзяцей.

Вось што сказаў у сваім апошнім слове Дашкевіч на судзе 13 ліпеня:

«Канечне, я разумеў, што мяне чакае, але тое, што я пачуў ад пракурора, гэта вышэй за разуменне.

Ісус даў нам уладу адпусціць грахі чалавеку ці пакараць. Якi павінен быць грэх, што маці чатырох дзяцей, немаўлятка неданошанага, просяць пасадзіць у турму?

Я часам задаю сабе пытанне, што думаюць гэтыя людзі, калі просяць выносіць прысуды. Было б працей, каб мы бачылі перад сабой звяроў. А так яны ходзяць, усміхаюцца. Следчыя, якія пішуць гэтыя справы, просяць прабачэння, усьміхаюцца, цукеркі носяць на закрыццё справы.

Летась я стаяў, калі да мяне падышла дзяўчына са слязамі на вачах. Кажа: «Вось даведалася, што вы тут стаіце, прыйшла папрасіць прабачэння». Я не зразумеў, пра што яна гаворыць. Кажа: «Тата мой у 2004 годзе даў вам 14 сутак, памятаеце?» А я вельмі добра запомніў, таму што гэта быў адзіны выпадак, калі мне 14 сутак давалі. І вось праз 17 гадоў да мяне падышла дачка суддзі і сказала: «Прабачце». Напэўна, адзін з самых шчымлівых момантаў за гэтыя больш чым 20 гадоў. Я не пасьпеў у яе запытаць, але напэўна яна размаўляла з татам, тата думаў пра гэта ўсе гады. Даючы мне 14 сутак, разумеў, што ён робіць беззаконне. Нават 14 сутак, хоць у той момант я ня вельмі расстроіўся б і 14 гадам. А тут па паўтара мы года просім матулі з немаўляткам на руках.

Што адбываецца зараз, немагчыма зразумець.

Калі падчас арышту мяне білі пры маёй жонцы цяжарнай і казалі: «Что говорит этот человек? Пусть говорит нормально. Пусть нормально разговаривает».

Калі везлі ў машыне, гэты губопавец сказаў: «Я б цябе знішчыў толькі за тое, што ты дзяцей...» Я кажу: «Паслухай, што я раблю ня тое?» Ён: «Ну вось лісты пішаце, мы пазнаходзілі лісты, далучылі да крымінальнай справы». Знайшлі лісты, якія дзеці нашыя пісалі Марыі Калеснікавай — «Маша, мы молімся за цябе, мы любім цябе». Вось гэта злачынства — дзеці пішуць лісты палітвязням.

Калі мяне арыштоўвалі на Акрэсціна па крымінальнай справе, таксама губопаўцы смяяліся: «Жонка будзе нараджаць у турме». Я думаў, што гэта самы страшны дзень у маім жыцці, але сёння, напэўна, яшчэ страшнейшы.

Настачка, прабач мне, што я цябе ў гэта ўцягнуў. Ня мог уявіць ніколі, што такое можа з намі адбыцца.

Я ўвесь час разважаў, што я нясу гэты крыж, але я ня мог падумаць у страшным сне, што я ўскладу гэты крыж на цябе.

Даруй мне, што я так мала думаў пра цябе.

Я кахаю цябе і малюся за цябе і за нашых дзетак, за неданошанага Даніільчыка нашага (плача).

Ты святая жанчына. Я ня ведаю такіх . Даруй, што я падвёў цябе...

Я не разумею, што адбываецца. Людзі з вышэйшымі юрыдычнымі адукацыямі лічаць, што злачынца — гэта той, хто супраць гвалту выйшаў, а ня той, хто робіць гвалт. Злачынцамі яны лічаць таго, хто хоча праўды, а не таго, хто кажа «Часам не да законаў». Спадзяюся на Божую волю, хоць я не разумею, што адбываецца, скажу вам так.

У тым, што такая сістэма можа існаваць, няма сумневу. Я проста зычу вам, суддзі, пракуроры, падумаць пра душу сваю.

Я заўсёды кажу на судах (хоць гэта і бессэнсоўна): Ісус Хрыстос кажа — што ты дасі за душу сваю, калі прыйдзе дзень суду справядлівага? Што ты дасі за душу сваю, калі будзе суд сапраўдны? Вы назвалі сябе судом. Бог называе сябе судом. Імя Бога — суддзя. І я адказваю: прыйшоў суддзя і судзіў мяне справядліва за тое, што выйшаў 23-га з дзецьмі і раздаваў буклеты «Малітва за Беларусь», Бібліі раздаваў. У дзень сапраўднага суду вы нічога не дасьцё за сваю душу. І дай Бог, каб вашы дзеці праз 17 гадоў ці праз 17 месяцаў, ці вы самі прыйшлі і сказалі: «Прабач».

І, бачыць Бог, не жадаю нікому з вас зла.

Адзінае, каб вы трошку задумаліся, што вы робіце, ці ёсць нешта, што б вы не зрабілі, калі вам загадаюць, ці ёсць для вас нейкія межы"...

**www.nv-online.info**

«ВЕЛИКИЙ КАМЕНЬ»

# ГРАНДИОЗНОЕ ФИАСКО, КОТОРОЕ МАСКИРУЮТ СЛОВАМИ «ПРОЕКТ ОКУПИЛСЯ»

**Глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка напомнил всем о существовании «Великого камня» громким заявлением: «Для страны мы уже окупили этот проект». «Салідарнасць» объясняет, почему эти слова, вероятно, далеки от истины, а также почему индустриальный парк следует считать фиаско и уже бесперспективным проектом.**

Вот что именно сказал в эфире СТВ глава Администрации белорусско-китайского индустриального парка Александр Ярошенко:

— Сами прямые бюджетные вложения нашей страны составили порядка 36 миллионов долларов. Мы получили уже больше 40 миллионов. То есть для страны мы уже окупили этот проект.

Но более детально взглянуть на общую картину позволяет другое недавнее заявление — первого заместителя гендиректора «Компании по развитию индустриального парка» Кирилла Коротеева.

Он привел следующие цифры. Со времени создания «Великого камня» инвестиции в основной капитал составили $760 млн: 36 млн — бюджетные средства Беларуси на внешнюю инфраструктуру (эту сумму и назвал Ярошенко), 60 млн — китайское финансирование объектов технико-экономической помощи, 297 млн — инвестиции «Компании по развитию парка», 367 млн вложили инвесторы-резиденты.

Обратим внимание на сумму в почти $300 млн, которые инвестировала «Компания по развитию парка». Это совместное закрытое акционерное общество, одним из крупнейших учредителей которого выступает Республика Беларусь.

Точно неизвестно, сколько денег через эту структуру власти потратили на «Великий камень», но при общих вложениях СЗАО в $300 млн, можно догадаться, что сумма немаленькая.

Но, как видим, чиновники предпочитают рассказывать лишь о $36 млн, потраченных на инфраструктуру напрямую. Выглядит это как манипуляция с целью преуменьшить гостраты на «Великий камень».

Кстати, убыток «Компании по развитию парка» по результатам 2020 года составил 54 миллиона белорусских рублей, а по результатам 2021-го — более 22 миллионов.

Почему «Великий камень» следует считать грандиозным провалом и уже бесперспективным проектом?

Для ответа на первую часть вопроса можно вспомнить, какие цели изначально ставились перед проектом. В 2012 году планировалось, что в парк потекут многомиллиардные инвестиции, здесь будут создаваться высоко-технологичные производства, а продукция будет экспортироваться на рынки Евросоюза и ЕАЭС — что озолотит Беларусь.

***Когда просчитывались результаты «Великого камня», мы полагали, что Беларусь только от экспорта продукции из этого парка получит приток валюты порядка $50 млрд.***
***Александр Лукашенко, 2017 год***

Сравним эти планы с достигнутыми на данный момент экономическими показателями: за прошлый 2021 год предприятиями парка впервые (!) получена годовая суммарная чистая прибыль. Составила она мизерные 13,9 миллионов рублей. И это спустя десять лет после начала создания индустриального парка.

Еще в 2016 году руководитель Беларуси понял, что что-то пошло не так: «Работа {по созданию „Великого камня“} ведется из рук вон плохо».

Тогда же Владимир Семашко в должности вице-премьера обратил внимание на одну из многочисленных проблем проекта: «Парк создавался для того, чтобы туда пришли новейшие технологии, производства пятого, шестого, седьмого технологических укладов. К сожалению, те, кто туда заявился, это не совсем то, что нужно».

Здесь открывается еще один аспект провала: дело в том, что желая заполучить «новейшие технологии» (которые в целом в парк так и не пришли), белорусские власти создали для «Великого камня» льготный режим налогообложения.

В 2017 году руководство страны, пытаясь спасти проект, и вовсе расширило и без того внушительные льготы для резидентов «Великого камня»: произведенные инвесторами товары освободили от "ввозного" НДС, резидентов освободили от уплаты налога на прибыль в течение 10 лет с даты ее возникновения, а также от уплаты налога на недвижимость и земельного налога в полном размере на 50 лет. Для компаний в 10 раз снизили порог вхождения в индустриальный парк: отныне достаточно инвестиций от $ 500 тысяч.

Значительные инвестиции не потекли в «Великий камень» и после этого. А действия белорусских властей в последние два года и вовсе привели к тому, что на проекте следует поставить крест. Инвесторов теперь пытаются заманить в страну, против которой вводятся все новые и новые санкции.

Вспомнить хотя бы об ограничениях со стороны Евросоюза для белорусских самолетов и автоперевозчиков. Теперь мечта о «Великом камне» как о производственном и логистическом хабе между Востоком и Западом выглядит как никогда нереализуемой.

**Дмитрий Косач**

**gazetaby.info**

УКРАІНА

# «ВЫСОКОТОЧНЫЕ» РАКЕТЫ

**Как четырехлетняя девочка погибла в Виннице. Про обстрел мирной Винницы «высокоточными» ракетами.**



На траве перед обгоревшими руинами дома быта «Юбилейный» лежит на боку розовая детская коляска, запачканная кровью. Это была коляска маленькой девочки по имени Лиза.

Четырехлетняя Лиза — одна из троих детей, погибших в четверг в результате российского ракетного удара по центру Винницы.

Ее мать, Ирина Дмитриева, получила тяжелые ранения.

Подтверждена гибель 23 человек в результате этого удара, и восемь все еще числятся пропавшими без вести. Десятки людей по-прежнему в больнице.

Незадолго до ракетного удара Ирина выложила в интернет видео. Был чудесный солнечный день, Лиза улыбалась и толкала перед собой свою розовую коляску, они болтали с мамой о походе к логопеду.

«А мама, она все сердце вложила. Дочка была для нее смыслом жизни. Она безумно ее любила, и я просто не могу представить, какая это трагедия для семьи. Она жила этим ребенком. », - рассказала Би-би-си Валерия Король.

Валерия Король заведует центром для детей со специальными нуждами Logo-Club.

«Девочка была очень умная, очень способная. Она была очень веселая, очень любила к нам ходить. Очень радовалась — девочка очень добрая», — рассказывает Валерия.

У девочки был синдром Дауна, и в аккаунте ее мамы в «Инстаграме» осталось множество фотографий, которые она стала размещать там вскоре после рождения своей единственной дочери. Под первой из них стояла подпись: «Знакомьтесь, это маленький ангелочек Лиза».

Тем утром Лиза, как обычно, тоже пошла с мамой в LogoClub.

Клуб находится всего в квартале от Площади Победы, куда попали ракеты, и сотрудники центра при звуках сирены воздушной тревоги увели детей в укрытие. Но Лиза с мамой, как и многие другие люди, оставались на улице.

Когда началась война, они вернулись из Киева в Винницу из соображений безопасности, потому что город был далеко от линии фронта. Но сегодня в Украине уже нет безопасных мест.

Валерия рассказала мне, что Ирина совершенно не скрывала тот факт, что у девочки синдром Дауна. Она хотела, чтобы люди знали, что такие дети ничем не отличаются от нас, что они очень славные и добрые, говорит Валерия.

В результате этого ракетного удара были убиты также два мальчика.

Семилетний Максим Жарий погиб вместе с мамой Викторией. Жителей их деревни пригласили в пятницу выйти на улицу и проводить в последний путь гробы с их телами.

Про словам украинской полиции, Максим с мамой были на приеме у врача в медицинском центре на первом этаже «Юбилейного». От этой клиники не осталось ничего, кроме обгоревших стен.

Имя еще одного погибшего восьмилетнего мальчика не называется. Он ждал своего дядю в припаркованной машине и погиб, попав под шквал огня от взрыва.

На месте ракетного удара еще остаются остовы выгоревших автомобилей. Взрыв был такой силы, что одну из машин даже обернуло вокруг несущей колонны здания.

Министерство обороны России в пятницу сделало заявление по поводу этого ракетного удара, в котором ничего не говорилось о гибели детей.

Вместо этого утверждалось, что Россия использовала «высокоточные» ракеты и якобы уничтожила собравшихся на заседание украинских военных и иностранных чиновников, которые обсуждали поставки оружия.

По словам логопеда, с которым занималась Лиза, девочка была очень милой и доброй

При этом на месте удара не было ничего, что могло бы это подтвердить.

На самом деле Россия нанесла удар по Дому офицеров на Площади Победы. Однако кроме названия, оставшегося еще с советских времен, в этом доме ничего военного нет.

Там проводятся концерты, и в четверг вечером там должно было состояться очередное шоу. Когда ракеты попали в здание, один из участников группы, которая должны была выступать, настраивал звук. Он скончался в больнице от полученных ран. Другие музыканты получили ранения снаружи здания. В тот вечер в Доме офицеров должна была выступать певица Роксолана со своей группой.

По словам украинских официальных лиц, с начала развязанной Россией войны в Украине погибло 352 ребенка и еще сотни получили ранения. Владимир Зеленский назвал гибель людей в результате этого последнего обстрела актом терроризма.

Мать Лизы Ирина по-прежнему находится в больнице.

«Это ужасно. Ни дети, ни их матери не должны страдать и умирать», — говорит срывающимся голосом Валерия.

«Я не знаю, знает ли уже Ирина про Лизу, рассказала ее семья или нет. Я сама мать, и не представляю, как кому-то можно такое сообщить, я просто не знаю», — сказала она Би-би-си. - «Это ужасная трагедия».

**www.bbc.com**

ПАКАРАННЕ

# ПАЖЫЦЦЁВАЕ ДЛЯ «МЯСНІКА»

**У мінулы чацвер шведскі суд прыгаварыў былога іранскага чыноўніка да пажыццёвага зняволення за ўдзел у масавых забойствах і катаваннях палітычных зняволеных. Гэта першы выпадак у гісторыі, калі іранская службовая асоба была прыцягнута да адказнасці за масавыя зверствы супраць дысідэнтаў.**

Падлятаючы да аэрапорта Стакгольма ў лістападзе 2019 года, былы іранскі чыноўнік 61-гадовы Хамід Нуры, напэўна, нават не падазраваў, які сюрпрыз яго чакае на зямлі. Ледзь не каля трапу яго сустрэў паліцэйскі патруль з пракурорскім ордэрам на арышт.

Здзіўлены іранец даведаўся, што шведская Феміда ўзгадала некаторыя старонкі ягонай біяграфіі ў далёкіх 80-х. Тады Нуры адказваў за масавыя забойства і катаванні палітычных зняволеных у дзвюх іранскіх турмах.

Пра тыя падзеі сёння ўжо амаль забыліся. Між тым, у свой час яны былі ў топе сусветных навінаў, што нядзіўна з улікам колькасці ахвяраў і маштабаў рэпрэсій. Па падліках праваабаронцаў, за пяць месяцаў у 1988-м у Іране былі пакараныя ад 5 тысяч да 28 тысяч палітычных вязняў іранскіх турмаў.

Пераважна гэта былі актывісты «Муджахедзін-э Халк» — ваенна-палітычнай левай арганізацыі, якая выступала за звяржэнне клерыкальнага рэжыму ў Іране і практыкавала нават баявыя замахі на функцыянераў. Некаторыя з ахвяр былі забітыя з-за сваіх рэлігійных перакананняў — таму што яны былі атэістамі або мусульманамі, якія прытрымліваліся не афіцыйнай версіі ісламу.

Людзей забівалі без будзь якой судовай працэдуры, выключна на падставе тайнай інструкцыі ад Вярхоўнага лідара Ірана. У ёй аятала патрабаваў забіць усіх «адступнікаў ад ісламу», у лік якіх запісаў і апазіцыянераў. Як правіла, зняволеных грузілі ў аўтапагрузчыкі групамі па шэсць чалавек і прама ў турмах вешалі на будаўнічых кранах, якія выконвалі функцыю шыбеніц. Праз паўгадзіны трупы здымалі і вешалі новую партыю. Прычым, не шкадавалі сілавікі і жанчын.

Свет быў, мякка кажучы, у шоку. Шмат краінаў назвалі расправу злачынствам супраць чалавечнасці. Засвяціўся ў тых падзеях і Намід Нуры, які менавіта ў 88-м атрымаў мянушку «мяснік» і трапіў у поле зроку праваахоўнікаў. Нарэшце, у 2019-м яны высачылі яго ў аэрапорце Стакгольма.

Безумоўна, у справу тут жа ўмяшаліся іранскія дыпламаты. Прадстаўнік іранскага пасольства ў Швецыі прыбыў у аэрапорт і, спасылаючыся на нейкія міжнародныя пакты, паспрабаваў вызваліць суайчынніка. Але тут высветлілася, што шведскае заканадаўства змяшчае цікавы пункт. У адпаведнасці з ім, мясцовыя суды могуць судзіць як грамадзян Швецыі, так і іншых грамадзян за злачынствы супраць міжнароднага права, учыненыя ў тым ліку за мяжой. Такім чынам, арышт Нуры не супярэчыў шведскаму закону.

Хутка стартаваў і судовы працэс, на якім бок абароны спрабаваў прадставіць падазраванага як звычайнага сціплага чалавека, які ў сілу абставінаў, без асаблівага жадання быў вымушаны выконваць злачынныя загады. У сваю чаргу абвінавачванне абапіралася на сведчанні тых, хто выжыў у крывавай лазні 1988-га. Некаторым з іх нават пашчасціла бегчы з Ірану і атрымаць прытулак у Швецыі. Па іх словах, Нуры прымаў актыўны ўдзел у пакараннях — асабіста заходзіў у камеры і агучваў спісы вязняў, якіх тут жа выводзілі на экзекуцыю.

Нельга прайсці міма аднаго кур'ёзнага моманту падчас працэсу. Адвакаты Нуры спрабавалі давесці, што арышт іх кліента — гэта асабістая помста нейкіх іранскіх апазіцыянераў, якія сфабрыкавалі справу. Аднак аказалася, што «мясніка», што называецца, здаў яго былы зяць. Па нейкіх прыватных прычынах ён меў зуб на цесця і напярэдадні яго ад'езду ў Швецыю праінфармаваў аб гэтым лонданскіх юрыстаў-праваабаронцаў. Тыя перадалі інфармацыю ў шведскі МУС.

Так ці інакш, 14 ліпеня Акругова суд Стакгольму пастанавіў, што Хамід Нуры, «сумесна і ў змове з іншымі ўдзельнічаў у пакараннях, якія можна разглядаць як сур'ёзнае злачынства супраць міжнароднага права». Дзеянні Нуры дазваляюць асудзіць яго на пажыццёвае турэмнае зняволенне.

Прысуд быў сустрэты пад апладысменты сотняў іранскіх палітэмігрантаў, якія сабраліся ля будынку суда. Сярод іх былі, дарэчы, і тыя, якія правілі ў турмах на радзіме больш за дзесяць гадоў. Зрэшты, некаторым хацелася б, каб прысудам Нуры справа не абмежавалася. Нацыянальная рада супраціву Ірана — апазіцыйная кааліцыя ў дыяспары, заявіла, што «правасуддзе пераможа», калі ўсе вышэйшыя службовыя асобы паўстануць перад судом.

Трэба прызнаць, што справа Нуры яшчэ не скончаная. Судзячы па ўсім, Тэгеран вырашыў не абмежавацца нотамі пратэсту і абраў тактыку гандлю людзьмі. Незадоўга да заканчэння судовага працэсу іранскія СМІ паведамілі, што нейкі шведска-іранскі даследчык асуджаны на смяротнае пакаранне па абвінавачванні ў шпіянажы на карысць Ізраіля. Прыблізна ў той жа час стала вядома, што ў Іране затрыманы шведскі турыст. Пачакаем рэакцыі Стакгольму.

**Сяргей Варончык**
**novychas.online**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: bigsmoll2007@gmail.com
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.07.2022 у 16.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.